# ПАСЛАННЕ ДА РЫМЛЯНАЎ

## 1 (1-32)

[1]Павел, слуга Езуса Хрыста, пакліканы апостал, выбраны дзеля
[абвяшчэння] Евангелля Бога, [2]якое перад гэтым было абяцана праз Яго
пракаракаў у святых Пісаннях, [3]пра Сына Ягонага, які целам паходзіў з роду
Давіда і адкрыўся як Сын Божы ў моцы, [4]паводле Духа святасці, праз
уваскрасенне з мёртвых, пра Езуса Хрыста, Пана нашага, [5]праз якога мы
атрымалі ласку і апостальства, каб у імя Ягонае зрабіць паслухмянымі веры ўсе
народы, [6]сярод якіх і вы, пакліканыя Езусам Хрыстом. [7]Усім, хто знаходзіцца ў
Рыме, умілаваным Бога, пакліканым святым: ласка вам і спакой ад Бога, Айца
нашага, і Пана Езуса Хрыста.

[8]Найперш дзякую Богу майму праз Езуса Хрыста за ўсіх вас, бо вера вашая
абвяшчаецца па ўсім свеце. [9]Маім сведкам ёсць Бог, якому служу ў маім духу
праз Евангелле Ягонага Сына, што я пастаянна ўспамінаю пра вас. [10]Кожную
хвіліну ў сваіх малітвах прашу, каб мне – калі будзе на гэта воля Божая –
пашчасціла калі-небудзь прыйсці да вас. [11]Прагну пабачыць вас, каб перадаць
вам духоўны дар дзеля вашага ўмацавання, [12]але больш, каб парадавацца разам
з вамі дзеля ўзаемнага суцяшэння праз супольную веру, вашую і маю. [13]Не
хачу, браты, каб вы не ведалі, што я шмат разоў збіраўся прыйсці да вас, каб
які-небудзь плён сабраць і ў вас, як і сярод іншых народаў, але аж дагэтуль меў
перашкоды. [14]Я даўжнік грэкаў і чужаземцаў, мудрых і неразумных. [15]Таму
таксама вельмі прагну і вам, жыхарам Рыма, абвяшчаць Евангелле.

[16]Я не саромеюся Евангелля, бо гэта моц Божая для збаўлення кожнага, хто
верыць, спярша юдэя, а потым і грэка. [17]Бо ў ім адкрываецца справядлівасць
Божая з веры для веры, як напісана: «*Праведны жыць будзе вераю*».

[18]Бо гнеў Божы аб'яўляецца з неба супраць усялякай бязбожнасці і
несправядлівасці людзей, якія стрымліваюць праўду несправядлівасцю. [19]Бо
тое, што можна ведаць пра Бога, відавочнае сярод іх, таму што Бог адкрыў ім.
[20]Ад стварэння свету Яго нябачныя [рысы]: адвечная Яго моц і боскасць,
заўважальныя ў чынах, бачныя, таму няма ім апраўдання. [21]Бо яны, пазнаўшы
Бога, не як Бога праслаўлялі [Яго] і дзякавалі [Яму], але сталі нікчэмнымі ў
разважаннях сваіх, і зацямнілася іх неразумнае сэрца. [22]Называючы сябе
мудрымі, яны сталі неразумнымі [23]і славу нятленнага Бога замянілі на вобраз
тленнага чалавека, птушак, чатырохногіх і паўзуноў.

[24]Таму і аддаў іх Бог праз пажадлівасць іхніх сэрцаў нячыстасці, каб яны
самі зняславілі свае целы. [25]Яны замянілі праўду Божую на фальш і пачалі
пакланяцца і служыць стварэнню, а не Стварыцелю, які благаслаўлёны навекі.
Амэн.

[26]Таму выдаў іх Бог ганебным страсцям. Іх жанчыны змянілі згоднае з
натурай жыццё на тое, што супраць натуры. [27]Таксама і мужчыны, пакідаючы
натуральнае сужыццё з жанчынай, запалалі [пажадлівасцю] адзін да аднаго.
Мужчыны з мужчынамі чынячы нягоднае, самі на сябе наклікалі належную
кару за вычварэнне. [28]А паколькі не палічылі патрэбным мець пазнанне Бога,

выдаў іх Бог няздольнаму розуму, каб чынілі неадпаведнае. 29 Яны поўныя
ўсялякай несправядлівасці, нягоднасці, прагнасці, злосці, напоўненыя
зайздрасцю, забойствам, спрэчкай, подступам, зласлівасцю, абмовай. 30 Яны
паклёпнікі, ненавіснікі Бога, крыўдзіцелі, пыхлівыя, самахвалы, выдумшчыкі
ліхога, непаслухмяныя бацькам, 31 неразумныя, вераломныя, пазбаўленыя
любові, бязлітасныя. 32 Яны ведаюць наказ Бога, што той, хто так чыніць, варты
смерці, [аднак] не толькі самі так робяць, але і згаджаюцца з тымі, хто так
робіць.

## 2 (1-29)

1 Няма прабачэння табе, кожны чалавеча, які асуджаеш. Бо ў чым асуджаеш
іншага, у тым сябе асуджаеш, таму што, асуджаючы, робіш тое самае. 2 А мы
ведаем, што суд Божы справядлівы над тымі, хто так робіць. 3 Няўжо ты
думаеш, чалавеча, які асуджаеш тых, хто так робіць, [хоць] і сам робіш тое
самае, уцячы ад суда Божага? 4 А можа пагарджаеш багаццем Божай дабрыні,
лагоднасці і доўгацярплівасці, не разумеючы, што дабрыня Божая вядзе цябе да
пакаяння? 5 За жорсткасць тваю і няздольнае да пакаяння сэрца ты сам сабе
збіраеш гнеў на дзень гневу і аб’яўлення справядлівага суда Бога, 6 які аддасць
кожнаму паводле ўчынкаў ягоных: 7 тым, хто з цярплівасцю ў добрай справе
шукае славы, пашаны і нятленнасці, – вечнае жыццё, 8 а тым, хто працівіцца і не
слухаецца праўды, але слухаецца несправядлівасці, – гнеў і абурэнне. 9 Нядоля і
ўціск [спаткае] кожнага чалавека, які чыніць зло: спачатку юдэя, а пасля і грэка.
10 А хвала, пашана і спакой – кожнага, хто чыніць дабро: спачатку юдэя, а пасля
і грэка. 11 Таму што Бог не зважае на асобу!
12 Тыя, што, не маючы Закону, зграшылі, без Закону і загінуць, а тыя, што ў
Законе зграшылі, праз Закон будуць асуджаны. 13 Бо не тыя, што слухаюць
Закон, справядлівыя перад Богам, але тыя, што выконваюць, апраўданыя
будуць. 14 Калі язычнікі, не маючы Закону, па прыродзе робяць законнае, то, не
маючы Закону, яны самі сабе закон. 15 Яны паказваюць, што Закон упісаны ў іх
сэрцы, аб чым сведчыць іхняе сумленне ды думкі, якія то абвінавачваюць, то
апраўдваюць адна адну, 16 у дзень, калі Бог судзіць будзе тайныя ўчынкі людзей
паводле дабравесця майго праз Езуса Хрыста.
17 Калі ты завешся юдэем і супакойваеш сябе Законам, хвалішся Богам 18 і
ведаеш волю [Яго], умееш распазнаваць найважнейшае, навучаны дзякуючы
Закону, 19 калі перакананы, што ты правадыр сляпых, святло тых, хто ў цемры,
20 выхавацель неразумных, настаўнік малых, які мае ў Законе прыклад пазнання
і праўды, 21 то ці ж, навучаючы другога, не вучыш самога сябе? Навучаючы не
красці, крадзеш? 22 Кажучы, не чужалож, чужаложыш? Маючы агіду да ідалаў,
чыніш святатацтва? 23 Хвалішся Законам, а, парушаючы Закон, зневажаеш Бога?
24 Як напісана: «*Праз вас імя Божае зневажаецца сярод язычнікаў*».
25 Абразанне карысна, калі выконваеш Закон. Калі ты парушаеш Закон, то
абразанне тваё сталася неабразаннем. 26 Таму, калі неабрэзаны выконвае наказы
Закону, то ці не залічыцца яму яго неабразанне за абразанне? 27 І неабрэзаны,
выконваючы Закон, ці не асудзіць цябе, які нягледзячы на літару Закону і

абразанне парушаеш Закон? [28]Бо не той юдэй, хто такі знешне, і не тое
абразанне, якое знешне на целе, [29]але хто ўнутры юдэй і абразанне [мае] ў
сэрцы паводле духа, а не паводле літары. Такі [мае] пахвалу не ад людзей, але
ад Бога.

## 3 (1-31)

[1]У чым жа перавага юдэяў, ці якая карысць ад абразання?

[2]Вялікая ва ўсіх адносінах. Перадусім у тым, што ім даверaны словы Бога.

[3]Бо калі некаторыя і сталіся нявернымі, то ці іхняе нявер’е знішчыць
вернасць Божую?

[4]Канешне, не! Бог праўдзівы, а кожны чалавек ілжывы, як напісана: «*Каб
ты апраўдаўся ў словах Тваіх і перамог, калі будзеш асуджаны*».

[5]Калі ж несправядлівасць нашая адкрывае справядлівасць Божую, дык што
скажам? Ці ж Бог, – кажучы па-чалавечы, – несправядлівы, калі гневаецца?

[6]Канешне, не! Бо як жа [можа] асудзіць Бог свет?

[7]Калі праўда Бога праз мой падман памнажаецца на Яго славу, за што ж
яшчэ мяне судзяць, як грэшніка? [8]І ці не рабіць нам благое, каб выйшла дабро, як
некаторыя абгаворваюць нас і кажуць, быццам мы гэтак вучым? Такіх чакае
справядлівы прысуд.

[9]Дык што ж? Ці маем перавагу? Зусім не, бо мы ўжо сцвердзілі, што і юдэі,
і грэкі – усе пад грахом, [10]як напісана:

«*Няма ніводнага справядлівага,*
[11]*няма разумнага, няма таго, хто шукаў бы Бога.*
[12]*Усе заблукалі, усе разам сталі нягоднымі;*
*няма таго, хто рабіў бы дабро, няма ніводнага.*
[13]*Горла іх – адчыненая магіла.*
*Языкамі сваімі гавораць падступна.*
*Яд змяіны на вуснах іхніх;*
[14]*іх вусны поўныя праклёну і злосці.*
[15]*Ногі іх хуткія да праліцця крыві,*
[16]*знішчэнне і мучэнне на шляхах іхніх;*
[17]*дарогі спакою яны не пазналі.*
[18]*Няма боязі Божай перад іх вачыма*».

[19]Мы ж ведаем, што тое, што кажа Закон, адносіцца да тых, хто пад
Законам, каб кожныя вусны былі закрытыя і каб увесь свет прызнаў віну перад
Богам, [20]бо справамі Закону *не апраўдаецца перад Ім ніякае цела*, таму што праз
Закон пазнаецца грэх.

[21]Цяпер незалежна ад Закону выявілася Божая справядлівасць, пра якую
сведчаць Закон і Пракрокі. [22]Справядлівасць Божая [ўдзяляецца] праз веру ў
Езуса Хрыста ўсім веруючым, без розніцы. [23]Бо ўсе зграшылі і пазбаўлены
славы Божай, [24]але атрымліваюць апраўданне дарма, паводле ласкі Ягонай, праз
адкупленне ў Езусе Хрысце. [25]Яго Бог устанавіў як уміласціўленне ў Ягонай
крыві праз веру, каб паказаць справядлівасць сваю ў адпушчэнні грахоў,

учыненых раней, [26]у час цярплівасці Божай, каб выявіць справядлівасць сваю ў
цяперашні час, бо Ён справядлівы і апраўдвае таго, хто верыць у Езуса.
[27]Дык дзе ж пахвальба? Адкінута. Якім законам? Учынкаў? Не, але
законам веры. [28]Бо мы лічым, што чалавек апраўдваецца праз веру незалежна ад
учынкаў Закону. [29]Ці ж Бог ёсць толькі юдэяў, а язычнікаў не? Так, і язычнікаў,
[30]таму што адзін ёсць Бог, які апраўдвае абрэзанага з веры і неабрэзанага праз
веру. [31]Дык ці Закон лічым непатрэбным з прычыны веры? Канешне, не!
Наадварот, умацоўваем Закон.

## 4 (1-25)

[1]Што, скажам, знайшоў Абрагам, праайцец наш, паводле цела? [2]Калі
Абрагам апраўдаўся ўчынкамі, то мае чым хваліцца, але не перад Богам. [3]Бо
што кажа Пісанне? «*Паверыў Абрагам Богу, і гэта залічылася яму як
справядлівасць*». [4]Плата працаўніку залічваецца не з ласкі, але з абавязку. [5]А
таму, хто не працуе, але верыць у таго, хто апраўдвае бязбожнага, вера ягоная
залічваецца як справядлівасць. [6]Так і Давід называе шчаслівым чалавека, якому
Бог залічвае справядлівасць незалежна ад учынкаў:
[7]«*Шчаслівыя, каму беззаконне дараванае*
*і чые грахі закрытыя;*
[8]*шчаслівы чалавек, якому Пан не залічыць граху*».
[9]Ці шчасце гэтае датычыць абрэзаных, ці і неабрэзаных? Мы кажам, што
«*Абрагаму вера залічана як справядлівасць*». [10]Калі залічана? Пасля абразання
ці да абразання? Не пасля абразання, але да абразання. [11]І знак абразання ён
атрымаў, як пячаць справядлівасці праз веру, якую меў у неабразанні, так што
ён стаўся айцом усіх веруючых у неабразанні, каб таксама ім была залічана
справядлівасць, [12]і айцом абрэзаных, якія не толькі прынялі абразанне, але
таксама ідуць па слядах веры айца нашага Абрагама, якую ён меў да абразання.
[13]Абяцанне Абрагаму і патомству ягонаму, што ён будзе спадкаемцам
свету, было дадзена не праз Закон, але праз справядлівасць веры. [14]Калі
спадкаемцы тыя, што з Закону, то вера не мае значэння, і непатрэбнае абяцанне.
[15]Бо Закон наклікае гнеў, а дзе няма Закону, няма і злачынства. [16]Таму абяцанне
– з веры, каб было [справай] ласкі, каб мела моц для ўсяго патомства. Не толькі
для тых, хто абапіраецца на Закон, але і для тых, хто трымаецца веры Абрагама,
які ёсць айцом усіх нас. [17]Як напісана: «*Я паставіў цябе айцом многіх народаў*»,
– перад абліччам Бога, якому ён паверыў як таму, хто ажыўляе памерлых і кліча
няіснае да існавання. [18]Ён насуперак надзеі паверыў з надзеяй, што стане *айцом*
*многіх народаў*, паводле сказанага: «*Такім будзе патомства тваё*». [19]І не аслаб
у веры, хоць лічыў сваё амаль стогадовае цела ўжо змярцвелым і ўлонне Сары
мёртвым. [20]Не засумняваўся ў абяцанні Божым, але ўмацаваўся ў веры,
аддаючы хвалу Богу [21]і будучы цалкам упэўненым, што [Бог] мае моц выканаць
абяцанае. [22]Таму гэта і *залічана яму як справядлівасць*.
[23]Не толькі дзеля яго аднаго напісана, што *залічана яму*, [24]але таксама дзеля
нас, бо залічыцца і нам, якія вераць у таго, хто ўваскрасіў з мёртвых Езуса,

Пана нашага, [25]які быў выдадзены за правіны нашыя і ўваскрэшаны дзеля апраўдання нашага.

## 5 (1-21)

[1]Апраўданыя паводле веры, мы маем мір з Богам праз Пана нашага Езуса Хрыста, [2]праз якога, дзякуючы веры, мы атрымалі доступ да той ласкі, у якой трываем, і мы ганарымся надзеяй на славу Божую. [3]І не толькі гэтым, але ганарымся і ўціскам, ведаючы, [4]што ўціск нараджае цярплівасць, цярплівасць – вытрываласць, вытрываласць – надзею, [5]а надзея не асароміць, таму што любоў Божая вылілася ў сэрцы нашыя праз Духа Святога, які дадзены нам.

[6]Хрыстус, калі мы былі яшчэ слабымі, у вызначаны час памёр за бязбожных. [7]Бо наўрад ці нехта памрэ за справядлівага. Можа, за добрага чалавека нехта і адважыцца памерці. [8]Бог даказвае сваю любоў да нас тым, што Хрыстус памёр за нас, калі мы былі яшчэ грэшнікамі. [9]Тым больш цяпер, апраўданыя Яго крывёй, мы будзем збаўленыя праз Яго ад гневу! [10]Бо калі мы, будучы непрыяцелямі, паядналіся з Богам праз смерць Яго Сына, то, паяднаўшыся, мы тым больш збавімся праз Яго жыццё. [11]І не толькі [гэта], але таксама ганарымся ў Богу праз Пана нашага Есуса Хрыста, праз Якога мы атрымалі цяпер паяднанне.

[12]Як праз аднаго чалавека грэх увайшоў у свет і праз грэх – смерць, так і смерць перайшла на ўсіх людзей, таму што ўсе зграшылі. [13]Бо і перад Законам грэх быў у свеце, але грэх не залічваецца, калі няма Закону. [14]Аднак смерць валадарыла ад Адама аж да Майсея нават над тымі, хто не зграшыў падобна граху Адама, які ёсць правобразам будучага.

[15]Але з дарам ласкі не так, як з упадкам. Бо калі з-за ўпадку аднаго памерлі многія, то нашмат больш ласкі Божай і дару аднаго чалавека, Езуса Хрыста, сышло на многіх. [16]І гэты дар не з прычыны аднаго, які зграшыў, бо калі прысуд быў вынесены за адзін [упадак], то ласка прынесла апраўданне за многія ўпадкі. [17]Калі з-за ўпадку аднаго смерць запанавала праз аднаго, то нашмат больш тыя, якія атрымалі шчодрую ласку і дар справядлівасці, будуць валадарыць у жыцці дзякуючы аднаму – Езусу Хрысту.

[18]Як упадак аднаго прынёс усім людзям асуджэнне, так і справядлівасць аднаго прынесла жыццядайнае апраўданне ўсім людзям. [19]Бо як праз непаслухмянасць аднаго чалавека многія сталі грэшнікамі, так і праз паслухмянасць аднаго многія стануць справядлівымі.

[20]Закон жа ўвайшоў, каб памножыўся грэх. А дзе памножыўся грэх, там яшчэ больш памножылася ласка; [21]каб, як грэх запанаваў з прычыны смерці, так і ласка запанавала праз справядлівасць дзеля жыцця вечнага праз Езуса Хрыста, Пана нашага.

## 6 (1-23)

[1]Што ж скажам? Ці маем заставацца ў граху, каб памножылася ласка?

[2]Канешне, не! Мы, якія памерлі для граху, як жа будзем жыць у ім? [3]Ці ж не ведаеце, што ўсе мы, ахрышчаныя ў Езуса Хрыста, у смерць Ягоную

ахрысціліся? [4]Дык вось, мы пахаваныя разам з Ім хрышчэннем у смерць, каб, як
Хрыстус уваскрос з мёртвых дзеля славы Айца, так і нам хадзіць у абноўленым
жыцці. [5]Бо калі мы паяднаныя з Ім падабенствам смерці Ягонай, то павінны
быць паяднаныя і падабенствам уваскрасення, [6]ведаючы, што былы наш
чалавек укрыжаваны з Ім для таго, каб было знішчана грэшнае цела, каб нам не
быць ужо нявольнікамі граху; [7]бо той, хто памёр, вызваліўся ад граху. [8]Калі ж
мы памерлі з Хрыстом, то верым, што і жыць будзем з Ім, [9]ведаючы, што
Хрыстус, які ўстаў з мёртвых, ужо не памірае, смерць ужо не мае над Ім улады.
[10]Бо тое, што Ён памёр, дык памёр раз і назаўсёды для граху, а што жыве, дык
жыве для Бога. [11]Так і вы лічыце сябе мёртвымі для граху, а жывымі для Бога ў
Хрысце Езусе.

[12]Няхай грэх не пануе ў вашым смяротным целе, каб вам не служыць яму ў
пажадлівасці яго, [13]і не аддавайце члены вашыя граху, як зброю
несправядлівасці, але аддайце сябе Богу як тыя, хто ажыў з мёртвых; і члены
вашыя аддайце Богу, як зброю справядлівасці. [14]Няхай грэх не пануе над вамі,
бо вы не пад Законам, але пад ласкаю.

[15]Дык што ж? Будзем грашыць, бо мы не пад Законам, а пад ласкаю?
Канешне, не! [16]Няўжо вы не ведаеце, што каму вы аддаецеся ў няволю дзеля
паслухмянасці і каго слухаеце, таго вы і нявольнікі: або граху дзеля смерці, або
паслухмянасці дзеля справядлівасці? [17]Дзякуй Богу, што вы, будучы раней
нявольнікамі граху, ад сэрца паслухаліся таго вучэння, якое было вам
перададзена. [18]А вызваліўшыся ад граху, вы сталі слугамі справядлівасці.

[19]Кажу па-чалавечы з прычыны слабасці вашага цела. Бо як аддавалі вы
члены вашыя на служэнне нячыстасці і беззаконню для беззаконня, так цяпер
аддайце члены вашыя на служэнне справядлівасці для святасці. [20]Бо калі вы
былі нявольнікамі граху, вы былі свабоднымі ад справядлівасці. [21]Якія ж плады
мелі вы тады, што цяпер саромеецеся іх? Канцом жа іхнім ёсць смерць! [22]Але
цяпер, вызваліўшыся ад граху і стаўшы паслухмянымі Богу, маеце плод ваш
для святасці, а ў канцы – жыццё вечнае! [23]Бо расплата за грэх – смерць, а дар
Бога – жыццё вечнае ў Хрысце Езусе, Пану нашым.

## 7 (1-25)

[1]Ці ж не ведаеце, браты, – бо кажу тым, хто ведае Закон, – што Закон мае
ўладу над чалавекам, пакуль той жыве? [2]Замужняя жанчына звязана Законам з
жывым мужам. Калі муж памрэ, яна вольная ад мужа [паводле] Закону. [3]Таму,
калі жыве муж, а яна будзе [жонкай] другога, [то] будзе названа чужаложніцай.
Калі ж памрэ муж, яна вольная ад гэтага Закону і не будзе чужаложніцай,
выйшаўшы замуж за другога мужа. [4]Гэтак і вы, браты мае, памерлі для Закону
праз цела Хрыста, каб належаць другому, які ўстаў з мёртвых, каб прыносіць
плод Богу. [5]Бо, калі мы былі ў целе, тады страсці грахоўныя праз Закон
дзейнічалі ў членах нашых, каб даваць плод смерці. [6]Цяпер жа, памерлыя для
Закону, якім былі звязаны, мы вызваліліся ад яго, каб служыць у новым духу, а
не паводле старой літары.

[7]Што ж скажам? Закон – грэх? Канешне, не! Але я не пазнаў бы граху, калі
б не Закон, бо я не ведаў бы і пажадлівасці, калі б Закон не гаварыў: «*Не
пажадай*». [8]Але грэх, пазнаны праз запаведзь, выклікаў ува мне ўсякую
пажадлівасць, бо без Закону грэх мёртвы. [9]Я жыў калісьці без Закону, але, калі
прыйшла запаведзь, дык грэх ажыў, [10]а я памёр. І я ўбачыў, што запаведзь,
[дадзеная] для жыцця, [прывяла мяне] да смерці. [11]Грэх, выкарыстоўваючы
магчымасць праз запаведзь, звёў мяне і забіў ёю. [12]Таму закон святы, і запаведзь
святая, і справядлівая, і добрая. [13]Дык няўжо добрае стала для мяне смерцю?
Канешне, не! Але грэх, каб стацца грахом, карыстаючыся добрым, прынёс мне
смерць, каб грэх праз запаведзь выявіў сваю згубную моц.

[14]Ведаем, што Закон духоўны, а я цялесны, падлеглы граху. [15]Я не
разумею, што раблю, бо не тое раблю, што хачу, але тое раблю, што ненавіджу.
[16]Калі ж я раблю тое, чаго не хачу, то прызнаю тое, што Закон добры. [17]Цяпер
ужо не я раблю тое, але грэх, які жыве ўва мне. [18]Ведаю, што не жыве ўва мне,
гэта значыць, у целе маім, добрае. Бо жаданне ёсць ува мне, але зрабіць добрае
не знаходжу як! [19]Дабро, якое хачу, не раблю, а зло, якога не хачу, раблю. [20]Калі
ж раблю не тое, што хачу, ужо не я раблю гэта, але грэх, што жыве ўва мне.
[21]Тады я адкрываю закон, што, калі хачу рабіць дабро, ляжыць перада мною
зло. [22]Паводле духоўнага чалавека, знаходжу задавальненне ў Законе Божым,
[23]але ў членах маіх бачу іншы закон, што змагаецца з законам розуму майго і
робіць мяне нявольнікам закону граху, які ў членах маіх.

[24]Няшчасны я чалавек! Хто вызваліць мяне ад гэтага цела смерці? [25]Дзякую
Богу праз Езуса Хрыста, нашага Пана! Значыць я сам розумам служу Закону
Божаму, а целам – закону граху.

## 8 (1-39)

[1]Няма цяпер ніякага асуджэння тым, хто ў Хрысце Езусе, [2]бо закон Духа
жыцця ў Езусе Хрысце вызваліў цябе ад закону граху і смерці. [3]Закон быў
бяссільны, бо быў аслаблены целам. Таму Бог, паслаўшы Сына свайго ў постаці
грэшнага цела, з-за граху асудзіў грэх у целе, [4]каб апраўданне Закону
споўнілася ў нас, якія жывуць не паводле цела, але паводле духа пастулаюць.

[5]Бо тыя, хто жыве паводле цела, думаюць аб цялесным. А тыя, хто паводле
духа, – аб духоўным. [6]Бо памкненні цела – смерць, а памкненні духа – жыццё і
спакой. [7]Памкненні цела – непрыяцелі Бога, бо не пакараюцца закону Божаму,
ды і не могуць. [8]Тыя ж, хто жыве паводле цела, не могуць падабацца Богу.

[9]Вы ж не ў целе, але ў Духу, калі толькі Дух Божы жыве ў вас. Калі ж хто
Духа Хрыстовага не мае, той не належыць Яму. [10]Калі ж у вас Хрыстус, то цела
мёртвае з-за граху, а дух мае жыццё дзякуючы апраўданню. [11]Калі ж Дух таго,
хто ўваскрасіў Езуса з мёртвых, жыве ў вас, то той, хто ўваскрасіў Хрыста з
памерлых, ажывіць і вашыя смяротныя целы Духам сваім, які ёсць у вас.

[12]Таму, браты, мы не даўжнікі цела, каб жыць паводле цела. [13]Бо калі
жывяце паводле цела, то памрэце; а калі забіваеце Духам учынкі цялесныя,
жыць будзеце. [14]Таму што ўсе, каго вядзе Дух Божы, – гэта Сыны Божыя. [15]Вы
ж не прынялі духа нявολі, каб зноў баяцца, але прынялі Духа ўсынаўлення, у

якім мы клічам: «Абба, Ойча!» [16]Гэты самы Дух сведчыць духу нашаму, што
мы дзеці Божыя. [17]А калі дзеці, то і спадкаемцы. Спадкаемцы Божыя,
спадкаемцы разам з Хрыстом, калі толькі мы церпім разам з Ім, каб разам з Ім і
ўславіцца. [18]Думаю, што цярпенні цяперашняга часу нягодныя той славы, якая
павінна выявіцца ў нас.
[19]Стварэнне ж з надзеяй чакае адкрыцця сыноў Божых, [20]бо стварэнне
падпарадкавалася марнасці не добраахвотна, але праз таго, хто падпарадкаваў
яго, у надзеі, [21]што і само стварэнне вызвалена будзе з няволі тлення дзеля
свабоды хвалы дзяцей Божых. [22]Мы ж ведаем, што ўсё стварэнне разам стогне і
пакутуе ажно да цяперашняга часу. [23]І не толькі яно, але і мы самі, якія маем
пачатак Духа, і мы ў сабе стогнем, чакаючы ўсынаўлення, адкуплення цела
нашага. [24]Мы збаўленыя праз надзею. А надзея, калі яна бачная, не ёсць
надзеяй. Бо, калі хто бачыць, навошта яму яшчэ спадзявацца? [25]Але калі
спадзяёмся на тое, чаго не бачым, тады чакаем цярпліва.
[26]Таксама і Дух дапамагае ў слабасцях нашых, бо мы не ведаем, аб чым
трэба маліцца, але сам Дух заступаецца за нас стагнаннямі невымоўнымі. [27]Той
жа, хто даследуе сэрцы, ведае, чаго прагне Дух, бо Ён заступаецца за святых па
волі Божай.
[28]Мы ведаем таксама, што ўсё ідзе на карысць тым, хто любіць Бога і хто
пакліканы па Яго пастанове. [29]Бо, каго Ён наперад пазнаў, таго і прызначыў
быць падобным да вобраза Сына свайго, каб Ён быў першародным між многімі
братамі. [30]Каго ж прызначыў, таго і паклікаў, а каго паклікаў, таго і апраўдаў; а
каго апраўдаў, таго і ўславіў.
[31]Што ж скажам на гэта? Калі Бог за нас, хто супраць нас? [32]Той, які Сына
свайго не пашкадаваў, але аддаў Яго за ўсіх нас, як жа не дасць нам разам з Ім
таксама ўсяго? [33]Хто будзе абвінавачваць выбраных Богам? Ці ж Бог, які
апраўдвае? [34]Хто будзе асуджаць [іх]? Ці ж Хрыстус, які памёр, а нават больш
за тое, уваскрос, знаходзіцца праваруч Бога і заступаецца за нас?
[35]Хто адлучыць нас ад любові Хрыста? Няшчасце ці прыгнёт, ці праслед,
ці голад, ці галеча, ці небяспека, ці меч? [36]Як напісана:
«*За цябе забіваюць нас увесь дзень,*
*лічаць нас авечкамі, прызначанымі на зарэз*».
[37]Але над усім гэтым мы атрымліваем поўную перамогу праз таго, хто
палюбіў нас. [38]Бо я перакананы, што ні смерць, ні жыццё, ні анёлы, ні ўлады, ні
цяперашняе, ні будучае, ні сілы, [39]ні вышыня, ні глыбіня, ні іншае якое
стварэнне не зможа адлучыць нас ад любові Божай, якая ёсць у Хрысце Езусе,
Пану нашым.

## 9 (1-33)

[1]Я кажу праўду ў Хрысце, не ілгу, і пацвярджае сумленне маё ў Духу
Святым, [2]што смутак мой вялікі і няспынна пакутуе сэрца маё. [3]Бо я хацеў бы
сам быць адлучаным ад Хрыста замест братоў маіх, родных мне паводле цела,
[4]ізраэльцянаў, якім належыць усынаўленне, і хвала, і запаветы, і ўстанаўленне

законаў, і Божае служэнне, і абяцанні. [5]Да іх належаць айцы, і з іх паводле цела
– Хрыстус, Бог над усімі, благаслаўлёны навекі. Амэн.

[6][Гэта] не азначае, што слова Божае не збылося. Бо не ўсе тыя, што ад
Ізраэля, – Ізраэль, [7]і не ўсе, што паходзяць ад Абрагама, яго дзеці, але *ад Ісаака*
*будзе тваё патомства*. [8]Гэта значыць, што не цялесныя дзеці з’яўляюцца
дзецьмі Божымі, але дзеці абяцання лічацца патомствам. [9]А слова абяцання
такое: «*У той жа час прыйду, і ў Сары будзе сын*». [10]І не толькі яна, але і
Рэбэка зачала ад Ісаака, айца нашага. [11]Калі яны яшчэ не нарадзіліся і не зрабілі
нічога добрага ці благога (каб пастанова Божая ў выбранні заставалася, [12]не з
учынкаў, але ад таго, хто кліча), сказана было ёй: «*Старэйшы будзе ў няволі ў*
*малодшага*», [13]як і напісана: «*Якуба я палюбіў, а Эзава ўзненавідзеў*».

[14]Што ж скажам? Няўжо няпраўда ў Бога? Канешне, не! [15]Бо Ён кажа
Майсею: «*Памілую таго, каго памілую, і злітуюся над тым, над кім літуюся*».

[16]Таму не ад таго, хто жадае, і не ад таго, хто бяжыць, але ад Бога, які мае
міласэрнасць. [17]Бо Пісанне кажа фараону: «*Дзеля таго Я і ўстанавіў цябе, каб*
*паказаць у табе сілу Маю, і каб імя Маё было абвешчана па ўсёй зямлі*». [18]Таму
літуецца над кім хоча, і, каго хоча, робіць жорсткім.

[19]Ты скажаш мне: «За што ж яшчэ вінаваціць? Хто стане супраць волі
Яго?» [20]А ты хто, чалавеча, што спрачаешся з Богам? *Ці скажа зробленае таму,*
*хто зрабіў*: «Чаму ты мяне гэтак зрабіў?» [21]Ці не мае ўлады *ганчар над глінаю*,
каб з таго ж месіва зрабіць адно начынне для пачэснага [ўжытку], а другое –
для непачэснага? [22]Калі Бог, хочучы паказаць гнеў і выявіць сваю магутнасць, з
вялікай доўгацярплівасцю бярог начынні гневу, што падаваліся на загубу, [23]каб
даць пазнаць багацце сваёй славы над начыннямі міласэрнасці, якія Ён раней
падрыхтаваў для славы, [24]таксама перад намі, якіх паклікаў не толькі з юдэяў,
але і з язычнікаў? [25]Як і праз Осію кажа:
«*Не мой народ назаву Маім народам,*
*і нялюбую – умілаванай*. [26]*І станецца, што на месцы, дзе было сказана ім:*
*“Вы не мой народ”,*
*сынамі Бога Жывога названыя будуць*».

[27]А Ісая ўсклікае да Ізраэля: «*Хоць бы лічба сыноў Ізраэля была як марскі*
*пясок,* [толькі] *рэшта будзе збаўлена*. [28]*Бо канчаткова і хутка здзейсніць Пан*
*слова* [сваё] *на зямлі*».

[29]І, як прарочыў Ісая:
«*Калі б Пан Магуццяў не пакінуў нам патомства,*
*то мы былі б, як Садом,*
*і падобнымі сталіся б да Гаморы*».

[30]Што ж скажам? Што язычнікі, якія не шукалі справядлівасці, атрымалі
справядлівасць дзякуючы веры. [31]А Ізраэль, шукаючы Закону справядлівасці, не
дасягнуў яго. [32]Чаму? Бо [шукалі] не з веры, а з учынкаў. І спатыкнуліся аб
камень спатыкнення, [33]як напісана:
«*Вось кладу на Сіёне камень спатыкнення і камень спакусы;*
*але кожны, хто верыць у Яго, не будзе асаромлены*».

## 10 (1-21)

1 Браты, жаданне майго сэрца і малітва да Бога за іх дзеля збаўлення. 2 Бо
сведчу ім, што маюць руплівасць Божую, але не паводле пазнання. 3 Не
разумеючы Божай справядлівасці і шукаючы ўласнай справядлівасці, яны не
падпарадкаваліся Божай справядлівасці. 4 Вяршыняй жа Закону ёсць Хрыстус
дзеля апраўдання кожнага, хто верыць.
5 Майсей піша аб справядлівасці, якая з Закону, што *чалавек, выканаўшы
яго, будзе праз яго жыць*. 6 А справядлівасць з веры так кажа: «*Не кажы ў
сэрцы тваім: хто ўзыдзе на неба?*», каб Хрыста прывесці, 7 або: «*Хто сыдзе ў
адхлань?*», каб Хрыста ўзняць з мёртвых. 8 Але што кажа? «*Блізка да цябе слова,
на вуснах тваіх і ў сэрцы тваім*». Гэта значыць, слова веры, якое прапаведуем.
9 Таму, калі ты вуснамі сваімі будзеш вызнаваць, што *Езус ёсць Панам*, і ў сэрцы
сваім верыць, што Бог уваскрасіў Яго з мёртвых, будзеш збаўлены. 10 Бо сэрцам
вераць для апраўдання, а вуснамі вызнаюць для збаўлення. 11 Пісанне ж кажа:
«Кожны, *хто верыць у Яго, не будзе асаромлены*».
12 І няма розніцы паміж юдэем і грэкам, бо той самы Пан ва ўсіх, шчодры
для ўсіх, хто Яго кліча.
13 І *кожны, хто пакліча імя Пана, будзе збаўлены*.
14 Як жа будуць заклікаць таго, у каго не паверылі? Як будуць верыць у
таго, каго не пачулі? Як будуць слухаць, калі няма каму абвяшчаць? 15 І як
будуць абвяшчаць, калі не будуць пасланыя? Як напісана:
«*Якія прыгожыя ногі тых, хто абвяшчае дабро*».
16 Але не ўсе падпарадкаваліся Евангеллю. Бо Ісая кажа:
«*Пане, хто паверыў пачутаму ад нас?*»
17 Таму вера – ад пачутага, а пачутае – праз слова Хрыста.
18 Але я кажу: хіба не пачулі яны? Наадварот.
*Па ўсёй зямлі разышоўся іхні голас,*
*і словы іхнія – да краёў свету*.
19 Але кажу: ці ж Ізраэль не пазнаў? Ужо Майсей кажа:
«*Я абуджу ў вас руплівасць праз ненарод,*
*разгневаю вас праз народ неразумны*».
20 А Ісая адважыўся ды кажа: «*Мяне знайшлі тыя, што не шукалі, абявіўся
я тым, што не пыталіся пра мяне*».
21 Ізраэлю кажа: «*Увесь дзень працягваў я рукі мае да народу
непаслухмянага і ўпартага*».

## 11 (1-36)

1 Таму пытаюся: няўжо Бог адкінуў народ свой? Канешне, не! Бо і я
ізраэльцянін, з патомства Абрагама, з роду Бэньяміна. 2 *Не адкінуў Бог народ
свой*, які пазнаў раней. Ці ж не ведаеце, што пра Іллю кажа Пісанне? Як ён
абвінавачваў перад Богам Ізраэль: 3 «Пане, *прарокаў Тваіх пазабівалі, ахвярнікі
Твае зруйнавалі. Застаўся я адзін, а яны палююць на маё жыццё*».
4 Але што адказвае яму Бог?

«*Я пакінуў* сабе *сем тысяч чалавек, што не схілілі калені перад Баалам*».
[5]Вось так і цяпер, паводле выбару ласкі, захавалася рэшта. [6]А калі праз
ласку, то не праз учынкі, інакш ласка не была б ужо ласкай.
[7]І што? Чаго Ізраэль шукаў, таго не дасягнуў. Выбраныя дасягнулі,
астатнія заўпарціліся, [8]як напісана:
«*Даў ім Бог духа здранцвення:*
*вочы, якімі не бачаць,*
*і вушы, якімі не чуюць,*
*ажно па сённяшні дзень*».
[9]І Давід кажа:
«*Няхай будзе ім стол іх пасткаю* і сілом*,*
*і спакусай, і адплатаю.*
[10]*Няхай зацьмяцца вочы іх, каб не бачыць,*
*і хрыбет іх няхай будзе сагнуты назаўсёды!*»
[11]Таму кажу: няўжо яны спатыкнуліся, каб упасці? Канешне, не! Але ад іх
падзення прыйшло збаўленне язычнікам, каб абудзіць у іх руплівасць. [12]Калі ж
падзенне іхняе – гэта багацце для свету, а іхняе прыніжэнне – багацце для
язычнікаў, то наколькі ж большая паўната іх!
[13]Я кажу вам, язычнікам: як Апостал язычнікаў я праслаўляю служэнне
сваё, [14]каб абудзіць руплівасць сярод сваіх суайчыннікаў і каб прывесці да
збаўлення некаторых з іх. [15]Бо калі адкідванне іх – гэта прымірэнне для свету,
то што ж тады іх прыняцце, калі не паўстанне з мёртвых да жыцця? [16]Калі
рошчына святая, то і цеста; і калі корань святы, то і галлё. [17]Калі ж некаторыя з
галін адламаліся, а ты, будучы дзікай аліўкай, прышчапіўся замест іх і жывішся
ад аліўкавага кораня, [18]то не выхваляйся перад галінамі. Калі выхваляешся, то
[памятай, што] не ты трымаеш корань, але корань цябе.
[19]Можа скажаш: «Галіны адламаліся, каб я быў прышчэплены». [20]Добра.
Яны адламаліся з прычыны бязвер’я, а ты трымаешся дзякуючы веры. Не
ўзвышайся, але бойся. [21]Калі Бог прыродных галін не пашкадаваў, то і цябе не
пашкадуе.
[22]Убач дабрыню і суровасць Божую: суровасць да адпаўшых, а дабрыню
Божую да цябе, калі будзеш [трываць] у гэтай дабрыні. Інакш і ты будзеш
адрэзаны. [23]Яны ж, калі не застануцца ў бязвер’і, будуць прышчэпленыя, бо мае
Бог моц ізноў прышчапіць іх! [24]Калі ты адрэзаны ад натуральнай [для цябе]
дзікай аліўкі і насуперак прыродзе прышчэплены да добрай аліўкі, тым больш
тыя, прыродныя, будуць прышчэпленыя да сваёй аліўкі. [25]Не хачу пакінуць вас,
браты, у няведанні гэтай таямніцы, каб вы не лічылі сябе мудрымі, таму што
ўпартасць ахапіла Ізраэль часткова, пакуль не ўвойдзе паўната язычнікаў. [26]І
так увесь Ізраэль збавіцца, як напісана:
«*Прыйдзе з Сіёна Вызваліцель*
*і адверне бязбожнасць ад Якуба.*
[27]*Гэта запавет Мой з імі,*
*калі забяру грахі іхнія*».
[28]Паводле Евангелля – яны ворагі з вашай прычыны; [29]а паводле выбрання
– умілаваныя з прычыны айцоў. Бо дары і пакліканне Божае нязменныя! [30]Як і

вы некалі былі непаслухмяныя Богу, а цяпер памілаваны праз непаслухмянасць
іхнюю, [31]гэтак і яны цяпер непаслухмяныя, каб праз змілаванне над вамі і яны
былі памілаваныя. [32]Бог замкнуў усіх у непаслухмянасць, каб усіх памілаваць!
[33]О, глыбіня багацця і мудрасці, і пазнання Бога! Якія неспасцігальныя
прысуды Яго і нязведаныя шляхі Ягоныя!

[34]*Бо хто спазнаў розум Пана?*
*Або хто быў дарадцам Ягоным?*
[35]*Або хто даў Яму раней,*
*каб атрымаць адплату?*

[36]Бо з Яго і праз Яго, і для Яго ўсё. Яму хвала навекі. Амэн.

## 12 (1-21)

[1]Прашу вас, браты, праз літасць Божую: аддайце целы вашыя на ахвяру
жывую, святую, прыемную Богу як разумнае служэнне вашае. [2]І не
дастасоўвайцеся да гэтага веку, але перамяняйцеся праз абнаўленне розуму, каб
вы пазналі, якая воля Божая, што добрае, прыемнае і дасканалае.
[3]Дзякуючы дадзенай мне ласцы, я кажу кожнаму, хто ёсць сярод вас, каб
не думалі пра сябе лепш, чым трэба думаць, але ацэньвалі сябе цвяроза,
паводле веры, уздзеленай кожнаму Богам. [4]Бо як у адным целе маем шмат
частак, і не ўсе члены выконваюць тыя самыя функцыі, [5]так і мы, многія,
складаем адно цела ў Хрысце, а паасобку адзін для аднаго – члены. [6]А паводле
дадзенай ласкі мы маем розныя дары. Калі дар прароцтва, павінен прарочыць
згодна з вераю. [7]Калі служэнне – служыць; калі настаўніцтва – навучаць; [8]калі
заахвочванне – заахвочваць; калі размеркаванне – раздаваць у прастаце; калі
кіраванне – кіраваць старанна; калі міласэрнасць – то [павінен чыніць гэта] з
радасцю.
[9]Любоў няхай будзе некрывадушнай. Майце агіду да зла, гарніцеся да
дабра; [10]любіце адзін аднаго братняю любоўю, апярэджвайце адзін аднаго ў
ветлівасці, [11]у руплівасці будзьце нястомныя, духам палымнейце, служыце
Пану. [12]Цешцеся надзеяй, ва ўціску будзьце цярплівыя, у малітве – трывалыя;
[13]падтрымлівайце святых; дбайце пра гасціннасць. [14]Благаслаўляйце тых, хто
праследуе вас, благаслаўляйце, а не праклінайце! [15]Радуйцеся з тымі, хто
радуецца, плачце з тымі, хто плача. [16]Будзьце аднамысныя паміж сабою; не
мудруйце празмерна, але наследуйце пакорных. Не лічыце сябе мудрымі.
[17]Нікому не адплачвайце злом за зло, але *дбайце аб добрым* перад усімі
людзьмі. [18]Са свайго боку, калі магчыма, жывіце ў спакоі з усімі людзьмі. [19]Не
помсціце за сябе, умілаваныя, але дайце месца [Божаму] гневу, бо напісана:
«*Мне помста, Я аддам*», – кажа Пан. [20]Але, *калі вораг твой галодны, накармі
Яго; калі прагне, напаі яго, бо, так робячы, збярэш яму на галаву гарачае
вуголле*. [21]Не будзь пераможаны злом, але перамагай зло дабром.

## 13 (1-14)

1Кожны чалавек няхай падпарадкоўваецца вышэйшым уладам. Бо няма
ўлады, якая не была б ад Бога. Існуючая ўлада ўстаноўлена Богам. 2Таму той,
хто супраціўляецца ўладзе, супраціўляецца Божай пастанове, а тыя, хто
супраціўляецца, самі на сябе наклічуць прысуд. 3Бо кіраўнікі страшныя не для
добрых спраў, але для дрэнных. Хочаш не баяцца ўлады? Рабі дабро, і
атрымаеш пахвалу ад яе, 4бо яна на служэнні ў Бога дзеля твайго дабра. Калі ж
робіш зло, бойся, бо не надарма носіць меч. Гэта слуга Бога, спасылае гнеў на
таго, хто робіць зло. 5Таму трэба падпарадкоўвацца не толькі з увагі на гнеў,
але і з прычыны сумлення. 6Дзеля гэтага вы і падаткі плаціце, бо тыя, хто
няспынна выконваюць гэтыя абавязкі, на служэнні ў Бога. 7Аддавайце кожнаму
тое, што яму належыць: каму падатак, падатак; каму мыта, мыта; каму боязь,
боязь; каму пашану, пашану.

8Нікому нічога не будзьце павінныя, апроч узаемнай любові, бо той, хто
любіць бліжняга, выканаў Закон. 9Таму што запаведзі: *не чужалож, не забівай,
не крадзі, не пажадай* ды ўсе іншыя змяшчаюцца ў гэтай адной: *любі бліжняга
твайго, як самога сябе*. 10Любоў не чыніць бліжняму зла; любоў ёсць
выкананнем Закону.

11Вы ведаеце, што настала ўжо пара, каб вы абудзіліся са сну, бо цяпер
збаўленне бліжэй да нас, чым тады, калі мы паверылі. 12Ноч мінула і наблізіўся
дзень. Таму адкінем учынкі цемры і апранемся ў зброю святла. 13Як у дзень,
будзем паводзіць сябе прыстойна, не ў гулянках ды п’янстве, не ў распусце ды
разбэшчанасці, не ў сварках ды зайздрасці, 14але апраніцеся ў Пана Езуса
Хрыста і не дагаджайце целу ў пажадлівасці.

## 14 (1-23)

1Слабога ў веры прымайце не дзеля спрэчак аб поглядах. 2Бо хтосьці
верыць, што [можна] есці ўсё, а слабы есць гародніну. 3Хто есць, няхай не
дакарае таго, хто не есць. І хто не есць, няхай не асуджае таго, хто есць, бо Бог
прыняў яго. 4Хто ты, што судзіш чужога слугу? Перад сваім гаспадаром стаіць
ён або падае. І будзе стаяць, бо мае Бог моц паставіць яго.

5Хтосьці адрознівае дзень ад дня, а для кагосьці кожны дзень аднолькавы.
Няхай кожны застанецца пры сваім меркаванні. 6Хто адрознівае дні, робіць гэта
для Пана. І хто есць, для Пана есць, бо дзякуе Богу. І хто не есць, для Пана не
есць ды дзякуе Богу. 7Ніхто з нас не жыве для сябе, і ніхто не памірае для сябе.
8Бо калі жывём, то жывём для Пана, калі ж паміраем – для Пана паміраем. Таму
ці жывём, ці паміраем, мы належым Пану. 9Бо дзеля гэтага Хрыстус і памёр, і
ажыў, каб панаваць і над памерлымі, і над жывымі.

10А ты чаму асуджаеш брата свайго? І чаму ты пагарджаеш братам сваім?
Усе мы станем перад судовым пасадам Бога. 11Бо напісана:

«*Пакольaccount Я жыву, – кажа Пан, –*
*перада Мною схіліцца кожнае калена,*
*і кожны язык будзе вызнаваць Бога*».

[12]Так кожны з нас адкажа за сябе перад Богам. [13]Не будзем жа больш судзіць
адзін аднаго, але глядзіце лепш, каб не даваць брату [прычыны для]
спатыкнення ці спакусы.
[14]Я ведаю і перакананы ў Пану Езусе, што нішто само па сабе не
з'яўляецца нячыстым, але становіцца нячыстым для таго, хто лічыць што-
небудзь нячыстым. [15]Калі ж праз страву сумуе брат твой, то ты ўжо жывеш не
паводле любові. Не губі тваёй стравою таго, за каго памёр Хрыстус! [16]Таму
няхай не зневажаецца дабро вашае! [17]Бо валадарства Божае не ежа і піццё, але
справядлівасць, спакой і радасць у Духу Святым. [18]Хто ў гэтым служыць
Хрысту, той падабаецца Богу і ў пашане ў людзей. [19]Таму будзем шукаць таго,
што служыць спакою і ўзаемнаму збудаванню. [20]Дзеля ежы не знішчай справы
Божай! Усё чыстае, але [становіцца] кепскім, калі чалавек, які есць,
прычыняецца да [чыйгосьці] спатыкнення. [21]Добра не есці мяса, не піць віна і
не рабіць таго, што прычыняецца да спатыкнення брата твайго.
[22]Веру, якую маеш, май для сябе перад Богам. Шчаслівы, хто не асуджае
сябе ў тым, што прымае. [23]Хто ж, спажываючы, сумняваецца, асуджае сябе, бо
[паступае] нязгодна з верай, а ўсё, што не паводле веры, – грэх.

## 15 (1-33)

[1]Мы, моцныя, павінны насіць немачы слабых, а не дагаджаць самім сабе.
[2]Кожны з нас няхай дагаджае бліжняму дзеля дабра і збудавання. [3]Бо і Хрыстус
не дагаджаў сабе, але, як напісана: «*Знявагі тых, што зневажае цябе, упалі на
мяне*». [4]А што напісана было раней, напісана дзеля нашага павучання, каб мы
праз цярплівасць і суцяшэнне з Пісання мелі надзею. [5]А Бог цярплівасці і
суцяшэння няхай учыніць вас аднадумцамі паміж сабою паводле Езуса Хрыста,
[6]каб вы аднадушна, аднымі вуснамі праслаўлялі Бога і Айца Пана нашага Езуса
Хрыста.
[7]Таму прымайце адзін аднаго, як і Хрыстус прыняў вас дзеля хвалы Божай.
[8]Бо кажу, што Хрыстус стаўся слугою абразання дзеля праўды Божай, каб
пацвердзіць абяцанні, дадзеныя айцам, [9]каб язычнікі за міласэрнасць маглі
праслаўляць Бога, як напісана:
«*За гэта буду славіць Цябе сярод язычнікаў*
*і спяваць імені Твайму*».
[10]І яшчэ кажа: «*Узвесяліцеся, язычнікі, з народам Яго*».
[11]І яшчэ:
«*Хваліце Пана, усе язычнікі,*
*і слаўце Яго, усе народы*».
[12]Ісая таксама кажа:
«*Будзе корань Есэя*
*і той, хто ўстане, каб валадарыць над народамі;*
*на Яго будуць спадзявацца язычнікі*».
[13]Бог жа надзеі няхай напоўніць вас усялякай радасцю і спакоем у веры,
каб вы праз моц Духа Святога абагаціліся надзеяй.

[14]Я сам упэўнены ў вас, браты мае, што і вы поўныя дабрыні, напоўненыя
ўсялякім пазнаннем, і можаце настаўляць адзін аднаго. [15]Я ж напісаў вам крыху
смялей, нібы нагадваючы вам пра дадзеную мне ад Бога ласку, [16]дзякуючы якой
я магу быць слугою Езуса Хрыста для язычнікаў і выконваць святарскае
служэнне для Божага Евангелля, каб гэтае прынашэнне язычнікаў, асвячанае
Духам Святым, было годна прынятае. [17]Таму я магу ганарыцца ў Езусе Хрысце
перад Богам. [18]Бо не адважуся сказаць нешта, чаго Хрыстус праз мяне не
ўчыніў дзеля паслухмянасці язычнікаў, словам і ўчынкам, [19]сілаю знакаў і
цудаў, сілаю Духа Божага. Так што Евангелле Хрыста пашырана мною ад
Ерузалема і навокал аж да Ілірыі. [20]Таму я стараўся абвяшчаць Евангелле там,
дзе яшчэ не было вядома імя Хрыста, каб не будаваць на чужым падмурку,
[21]але як напісана:
«*Каму не абвяшчалася пра Яго, убачаць;*
*і тыя, хто не чуў, зразумеюць*».

[22]Таму многае мне перашкаджала прыйсці да вас. [23]Цяпер жа нішто ўжо не
затрымлівае мяне ў гэтых ваколіцах. Я, даўно жадаючы прыйсці да вас, [24]як
толькі накіруюся ў Гішпанію, спадзяюся, праходзячы, пабачыцца з вамі, і вы
праведзяце мяне туды, як толькі крыху нарадуюся вамі.

[25]Цяпер жа я збіраюся ў Ерузалем служыць святым, [26]бо Македонія і Ахая
пастанавілі выказаць лучнасць са святымі ў Ерузалеме, якія церпяць нястачу.
[27]Так пастанавілі, бо вінаватыя ім. Калі ж язычнікі сталі саўдзельнікамі ў іх
духоўных [дабротах], то павінны паслужыць ім таксама і ў матэрыяльных.
[28]Выканаўшы гэтае і даставіўшы ім пад пячаццю гэты плод, пайду праз вас у
Гішпанію. [29]Ведаю, што, калі прыйду да вас, то прыйду ў поўні благаслаўлення
Хрыстовага. [30]Малю вас, браты, праз Пана нашага Езуса Хрыста і праз любоў
Духа, дапамагаць мне малітвамі за мяне да Бога, [31]каб уратавацца мне ад
няверных у Юдэі, і каб служэнне маё ў Ерузалеме было добра прынята святымі,
[32]каб мне паводле Божай волі ў радасці прыйсці да вас і адпачыць з вамі. [33]А
Бог спакою [няхай будзе] з усімі вамі. Амэн.

## 16 (1-27)

[1]Даручаю вам Фебу, сястру нашу, якая служыць Касцёлу ў Кенхрах.
[2]Прыміце яе ў Пану, як належыць святым, і забяспечце яе тым, чаго яна магла б
патрабаваць ад вас, бо і яна была апякункай многіх ды і мяне самога.

[3]Прывітайце Прысцылу і Аквілу, супрацоўнікаў маіх у Хрысце Езусе, [4]якія
рызыкавалі сабой дзеля мяне, якім не толькі я дзякую, але і ўсе Касцёлы
язычнікаў. [5][Прывітайце] таксама Касцёл, які збіраецца ў іх доме.

Прывітайце ўмілаванага майго Эпэнэта, які першым адкрыў Азію для
Хрыста. [6]Прывітайце Марыю, якая шмат працавала для вас. [7]Прывітайце
Андроніка і Юнія, родных маіх і сувязняў маіх, якія вылучаюцца між
Апосталаў і былі ў Хрысце раней за мяне. [8]Прывітайце Амплііята, умілаванага
майго ў Пану. [9]Прывітайце Урбана, супрацоўніка нашага ў Хрысце, і Стахія,
умілаванага майго. [10]Прывітайце Апэлеса, выпрабаванага ў Хрысце.
Прывітайце тых, хто з [дому] Арыстобуля. [11]Прывітайце Ірадыёна, сваяка

майго. Прывітайце тых, хто з [дому] Нарцыза, якія належаць Пану.
12Прывітайце Трыфэну і Трыфосу, што працуюць у Пану. Прывітайце
ўмілаваную Персіду, якая шмат папрацавала ў Пану. 13Прывітайце Руфа,
выбранага ў Пану, ды маці яго і маю. 14Прывітайце Асінкрыта, Флегонта,
Гермеса, Патроба, Гермаса ды іншых з імі братоў. 15Прывітайце Філялёга і
Юлію, Нэрэя і сястру ягоную, і Алімпана, і ўсіх з імі святых. 16Прывітайце адзін
аднаго святым пацалункам. Вітаюць вас усе Касцёлы Хрыста.

17Прашу вас, браты, сцеражыцеся тых, што сеюць падзелы і спакусы
насуперак вучэнню, якому вы навучаныя. Ухіляйцеся ад іх. 18Бо такія служаць
не Пану нашаму Хрысту, а свайму чэраву, і мілай гаворкай ды красамоўствам
зводзяць сэрцы прастадушных.

19Вашая паслухмянасць вядома ўсім, таму радуюся за вас. Хачу, каб вы
былі мудрыя ў добрым і незаплямленыя злом. 20А Бог спакою неўзабаве
скрышыць сатану пад нагамі вашымі.

Ласка Пана нашага Езуса Хрыста [няхай будзе] з вамі.

21Вітае вас Цімафей, супрацоўнік мой, ды Луцый, Язон і Сасіпатар, сваякі
мае. 22Вітаю вас у Пану і я, Тэрцый, які напісаў гэтае пасланне. 23Вітае вас Гай,
які прымае мяне, і ўвесь Касцёл. Вітае вас Эраст, гарадскі скарбнік, і брат
Кварт. (24)

25Таму, хто можа ўмацаваць вас паводле дабравесця майго і
прапаведавання Езуса Хрыста, паводле аб’яўлення таямніцы, якую замоўчвалі
вякамі, 26але якая выявілася цяпер праз прароцкія пісанні паводле наказу
адвечнага Бога, якая абвешчана ўсім народам дзеля паслухмянасці веры,
27адзінаму мудраму Богу, праз Езуса Хрыста, хвала навекі. Амэн.